

Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднаўлена ў 1997 годзе.

# Газета Слонімская



№35 (168). 24 — 30 жніўня 2000г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік http://gs.promedia.minsk.by Кошт 90 руб.

## ТРАГЕДЫЯ НА ЗАВОДЗЕ

**21 жніўня, у панядзелак, у рэанімацыі Слонімскай раённай бальніцы памёр 47-гадовы рабочы слонімскага завода сухога і абястлушчанага малака Вячаслаў Бешчадзь.**

(Працяг на 3 стр.)

## ДВА БЕЛАРУСЫ ЗАГІНУЛІ на падводнай лодцы "Курск"

**Ужо дзесяць дзён сродкі масавай інфармацыі ўсяго свету паведамляюць пра трагедыю расійскай атамнай падводнай лодкі "Курск" у Баранцавым моры.**

21 жніўня было афіцыйна прызнана, што ўвесь яе экіпаж загінуў. Сярод 118 расійскіх падводнікаў былі і два беларусы: капітан 2-га рангу, першы памочнік камандзіра падлодкі Сяргей Дудко і капітан-лейтэнант Аляксандр Садкоў.

Як стала вядома, бацькі Сяргея Уладзіміравіча Дудко паходзяць з Пінска. Яго бацька таксама быў марскім афіцэрам, служыў на поўначы Расіі. Там у 1969 годзе і нарадзіўся Сяргей. У Пецярбургу ён закончыў Вышэйшае ваенна-марское вучылішча, служыў на паўночным флоце Расіі. Сям'я Сяргея Дудко жыве ў пасёлку Відзяева, каля Севераморска.

Калі здарылася трагедыя, яго жонка з дачкой і сынам гасцявала ў маці Сяргея Зоі Пятроўны ў Пінску. Разам з маці і жонкай Сяргея Дудко ў Североморск нядаўна паехала і яго цётка Марыя Пятроўна Талейка, якая жыве ў вёсцы Навадзевяткавічы Слонімскага раёна.

**Сяргей ЁРШ**



*Сяргей Дудко разам з жонкай Аксанай і сынам*

## ОТ УРАГАНА БОЛЬШЕ ВСЕГО ПОСТРАДАЛ СОВХОЗ "СОСНОВКА"

**20 августа в результате сильного ветра и грозы погибли 1 человек и 20 голов скота, пострадало 50 населенных пунктов в Гродненской, Брестской и Минской областях.**

По сообщению Министерства по чрезвычайным ситуациям, стихией повреждено 29 жилых домов, один объект соцкультбыта, 6 производственных помещений, 66 хозяйственных зданий, в том числе 33 фермы, а также 12 трансформаторных подстанций, более 39 километров линий электропередачи, 5 автоматических телефонных станций, более 10 километров линий проводного вещания, 6 километров линий связи сельской телефонной сети. Обесточены 95 населенных пунктов, одна больница, два дошкольных учреждения, 10 производственных помещений, 32 сельскохозяйственных здания, в том числе 20 ферм, а также 70 трансформаторных подстанций.

В Слонимском районе наиболее сильно пострадали населенные пункты и хозяйственные постройки в совхозе "Сосновка". Как сказали корреспонденту "ГС", ураганный ветер буквально снес крыши и повредил кровли почти на 15 хозяйственных объектах. В том числе, на фермах, сенохранилищах, механических мастерских, весовой, водонапорной башне. Пострадали от урагана и многие частные усадьбы.

Сумма материального ущерба, нанесенного стихией совхозу "Сосновка", по предварительным данным, составляет 4986259 рублей.

**Наталья ФУРСОВА**

## ВОСЬ МІНУЎ І другі Спас

**У суботу, 19 жніўня, усе праваслаўныя вернікі адзначалі вялікае свята — Перамяненне Гасподняе ці яблычны Спас.**



Фота Віталя Гіля

Першы Спас адзначаўся 14 жніўня і называўся ён мядовым. На мядовы Спас бяруць з вулляў мёд і асвячаюць яго ў царкве, пачынаюць нарыхтоўку лекавых ягад лясной маліны і чароміх.

Пасля другога Спасу — яблычнага — пачынаюць збіраць гарох і яблыкі. На Перамяненне лічылася грахом не раздаць жабракам міласціну ці не накарміць бедных кашай. Наступны Спас будзе гарэхавы.

**Вольга ШЫНКЕВІЧ**

З МОМАНТУ ЗНІКНЕННЯ ЖУРНАЛІСТА **Дзмітрыя Завадскага**



Мінула: **48 дзён**



## ЗАГЛЯНЕМ НА РЫНОК

*Цены в руб. за 1 кг.*

| | 21.07.00 | 22.08.00 |
|---|---|---|
| лимоны | 1000 | 1100 |
| апельсины | 600 | 600 |
| бананы | 550 | 400-450 |
| свинина | 1200-2200 | 1000-2200 |
| телятина | 2000 | 2000 |
| сало св. | 1500 | 1500 |
| сало сол. | 1300 | 1300 |
| капуста | 200 | - |
| огурцы | 300 | 300 |
| морковь (пучок) | 150 | 150 |
| перец | 650 | 650 |
| дыни | 1500 | 400 |
| арбузы | 600 | - |
| картофель | 120 | 120 |
| рис | 450 | 450 |
| гречка | 650 | 500-650 |
| сахар | 500 | 450 |
| масло сл. | 1700 | 1600 |
| масло растит. | 650 | 650 |
| яйца (1 дес.) | 500 | 315-550 |
| творог | 500 | 450 |
| молоко | 120 | 120 |
| сметана | 600 | 600 |
| мед | 3000 | 3000 |

## "БЯСПЛАТНАЯ" адукацыя

**Вядома, што сёння за ўсё прыходзіцца плаціць, нават за школьныя падручнікі.**

Самы танны камплект падручнікаў у падрыхтоўчых класаў — 2652 рублі, самы дарагі — у 9-х класаў сярэдняй школы з беларускай і рускай мовамі навучання — 7602 рублі.

За падручнікі для 1-га класа з беларускай мовай навучання (па праграме 12-цігадовай школы) прыйдзецца заплаціць 4025 рублёў, для 2-га — 4329 рублёў, 3-га — 5872 рублі. З рускай мовай навучання (па праграме 12-цігадовай школы) такія ж камплекты падручнікаў для 1-га класа будуць каштаваць 4451 рубель, 2-га — 4851, 3-га — 5872 рублі.

Падручнікі для 3-га класа па праграме 11-цігадовай школы з беларускай мовай навучання будуць каштаваць 2952 рублі, 4-га — 3501 рубель, з рускай мовай навучання — для 3-га класа — 3343 рублі, 4-га — 3501 рубель.

Кошт камплектаў для вучняў сярэдняй школы па 11-гадовай праграме з рускай і беларускай мовамі навучання для 5-га класа будзе каштаваць 3955 рублёў, 6-га — 4272 рублі, 7-га — 5604 рублі, 8-га — 6814 рублёў, 9-га — 7602 рублі, 10-га — 7529 рублёў, 11(12) — 6879 рублёў.

Таксама бацькам прыйдзецца заплаціць пэўную суму за карыстанне падручнікамі. Яна будзе залежаць ад таго, у якім класе, на якой мове і па якой праграме вучацца дзеці.

**Вольга ШЫНКЕВІЧ**

# ЦІ БУДЗЕ ВЫРАШАНЫ ЛЁС слонімскай сінагогі?



**Паўгода прайшло з таго часу, калі абрушылася частка прыбудовы слонімскай сінагогі. І сёння лёс помніка архітэктуры XVII стагоддзя застаецца нявызначаным.**

Мы звязаліся па тэлефоне са старшынёй Слонімскай яўрэйскай асацыяцыі ў Ізраілі **Цві Шэфетам**, які расказаў пра меры, якія прадпрымаюцца для выратавання сінагогі ад знішчэння.

— Мала таго, што сінагога абвальваецца літаральна на вачах, дык з яе яшчэ зрабілі туалет, — гаворыць Цві Шэфет. — Я напісаў ліст мэру Слоніма, дзе запытаўся, як бы мясцовыя ўлады глядзелі на тое, каб такое адбывалася з царквой ці касцёлам? Пісаў таксама ў Мінск, у Гродна. І, як заўсёды, адказу не атрымаў...

***— Як вы думаеце, хто нясе адказнасць за такі стан сінагогі?***

— Для нас сінагога — гэта ўжо 400 гадоў свяшчэннае месца. Акрамя таго, гэта помнік архітэктуры, які калісьці быў адным з самых прыгожых ва Усходняй Еўропе. Дзяржава, міністэрства культуры Беларусі, мясцовыя ўлады адказныя за захаванне гэтага манумента. Яны павінны тут падтрымліваць парадак. Дарэчы, яны абавязаліся прывесці сінагогу ў належны выгляд. Бо гэты будынак прызначаны для музея яўрэйскай культуры Беларусі.

***— Атрымоўваецца, што тое рашэнне не выконваецца?..***

— Так. Дзесяць гадоў назад сінагогу пачалі рамантаваць. І я тады прапанаваў мэру горада Слоніма падрыхтаваць бюджэт гэтай рэстаўрацыі: якія работы трэба зрабіць, колькі яны будуць каштаваць і ў які тэрмін павінны быць выкананы. Калі б яны пачалі гэта рабіць, я, як старшыня слонімскай абшчыны Ізраіля, абавязаўся б прафінансаваць рэстаўрацыю, мабыць, на 50 працэнтаў. Але мне нічога не адказалі. І нічога не зрабілі...

***— Якія будуць Вашы далейшыя дзеянні?***

— На гэтым тыдні прэзідэнт яўрэйскага рэлігійнага аб'яднання Беларусі Юрый Дорн павінен сустрэцца з мэрам Слоніма і абмеркаваць гэтую праблему. І я папрасіў Дорна тэрмінова мне паведаміць пра вынікі сустрэчы. Калі нічога не атрымаецца, то мы паведамім пра сітуацыю, якая склалася са слонімскай сінагогай, на ўвесь свет. Я буду вымушаны напісаць ліст вашаму прэзідэнту і прэзідэнту Ізраіля. У рэшце рэшт, хтосьці павінен адказаць за тое, што адбываецца.

Карэспандэнту "ГС" таксама удалося звязацца па тэлефоне і з прэзідэнтам яўрэйскага рэлігійнага аб'яднання Рэспублікі Беларусь Юрыем Дорнам. Ён пацвердзіў, што ў бліжэйшы час павінна адбыцца сустрэча са старшынёй слонімскага гарвыканкама Алегам Лакцюшыным, дзе будзе вырашаца лёс сінагогі. Перад гэтым Дорн сустракаўся з адным з намеснікаў Лакцюшына. Па словах Юрыя Дорна, "улады не могуць рашыцца перадаць ва ўласнасць яўрэйскага рэлігійнага аб'яднання будынак сінагогі". У выпадку ж, калі будынак будзе перададзены яўрэям, яны гатовы фінансаваць яго рэстаўрацыю.

Дорн напомніў, што ў 1991-93 гадах Камітэтам па ахове гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі, пры падтрымцы былых слонімцаў-яўрэяў у Ізраілі, ужо праводзіліся рэстаўрацыйныя работы сінагогі, якія не былі завершаны. За мінулыя гады стан будынка моцна пагоршыўся. Магчыма, нарэшце слонімскія ўлады пойдуць насустрач яўрэйскаму аб'яднанню. Ва ўсялякім выпадку, на гэта спадзяецца Юрый Дорн.

**Сяргей ЁРШ**




אירגון עולי סלונים בישראל
SLONIM JEWS' ASSOCIATION IN ISRAEL
P.O.Box. 53037, TEL AVIV - 61530 - ת.ד. 53037, תל-אביב
Phone: 972-3-6477763 03-6477763 טל.
Fax: 972-3-6478349 03-6478349 פקס.

Г-ну Олегу Николаевичу Лактюшину
Председателю Слонимского горисполкома
231 800 г.Слоним
Гродненская область
Беларусь

21 Марта 2000

Многоуважаемый господин Лактюшин!

Слонимская еврейская ассоциация в Израиле обращается к Вам в связи с бедственным положением, в котором оказалась Большая синагога г.Слонима, историко-архитектурный памятник 17в., для нас – святыня.

Начатые и прерванные реставрационные работы привели к разрушениям фасадной стены здания. Предыдущие поломки, в частности, отсутствие входной двери, превратили взятое под государственную охрану здание, предназначенное для Республиканского музея


Фота Віталя Гіля

*Смецце ў сінагозе*

НАВІНЫ

## Беларусізацыя адукацыі залежыць ад бацькоў

**Напярэдадні новага вучэбнага года карэспандэнт "ГС" пацікавіўся ў загадчыка гарадскога аддзела адукацыі Аркадзя Бумагіна, колькі ў Слоніме будзе беларускамоўных першых класаў.**

Па словах Аркадзя Рафаэлавіча, на гэтае пытанне ён пакуль не можа адказаць, бо "вядзецца работа". Штосьці высветліцца толькі 1 верасня.

Цьмяная перспектыва застаецца і ў сітуацыі з атрыманнем адной са слонімскіх школ статуса беларускамоўнай. Напомнім, што яшчэ ў снежні 1998-га слонімскі гарвыканкам прыняў рашэнне, паводле якога планаваў разгледзець гэтае пытанне "у мэтах павышэння ролі роднай мовы ў духоўным жыцці грамадства". Час ішоў, а беларускамоўная школа ў Слоніме так і не з'явілася. Па словах Аркадзя Бумагіна, яшчэ вясной планавалі надаць статус беларускамоўнай СШ № 1, але "не падтрымалі бацькі". "Мы ж не можам ісці супраць бацькоў", — сказаў Аркадзь Рафаэлавіч.

Такім чынам, склалася такая сітуацыя, што праблема беларусізацыі адукацыі залежыць толькі ад бацькоў дзяцей. Ад іх грамадзянскай пазіцыі і нацыянальнай свядомасці. Чыноўнікі, нібыта, і не пры чым...

## "СХІБІЎ" ЮРЫСТ

**Слонімскі грузавы аўтапарк № 11 імкнецца абскардзіць рашэнне інспекцыі дзяржаўнага падаткавага кантролю, у адпаведнасці з якім прадпрыемства павінна заплаціць у бюджэт 5,8 мільёна рублёў.**

А пачалося ўсё яшчэ вясной, калі падатковыя інспектары высветлілі, што аўтапарк парушае прэзідэнцкі ўказ "Аб удасканаленні парадку абавязковага продажу замежнай валюты". У сувязі з гэтым была налічана буйная сума штрафаў, якія прадпрыемства павінна заплаціць дзяржаве. Аднак кіраўніцтва аўтапарка з такім рашэннем не пагадзілася і накіравала скаргу ў рэспубліканскі Дзяржаўны падатковы камітэт. Але безвынікова.

Калі ж аўтапарк звярнуўся ў Гаспадарчы суд Гродзенскай вобласці, дык было ўжо позна. Скончыўся 14-дзённы тэрмін падачы іску. Слонімскаму прадпрыемству было адмоўлена ў задавальненні іскавага патрабавання.

Па словах дырэктара прадпрыемства Паўла Аляшкевіча, "схібіў" юрыст аўтапарка, па віне якога быў прапушчаны ўстаноўлены тэрмін падачы іскавага патрабавання. "Аднак мы будзем абараняцца ў любым выпадку. Здавацца не збіраемся, таму прапрацоўваем розныя варыянты", — сказаў Павел Лукіч. Дырэктар аўтапарка лічыць, што штрафныя санкцыі, накладзеныя на прадпрыемства падатковай інспекцыяй па выніках праверкі "не справядлівыя на 100 працэнтаў".

**Сяргей ЁРШ**



На мінулым тыдні зноў распачаліся рамонтныя работы па добраўпарадкаванню часткі дарогі, што па вуліцы Касаўскі тракт.

Кладуць асфальт работнікі Слонімскага ўчастка Ваўкавыскага ДБУ-30. Як паведаміў карэспандэнту "ГС" начальнік участка Іван Герман, работы будуць завершаны ў канцы верасня. Грошы на рэканструкцыю вуліцы Касаўскі тракт выдзяляў Гроднааблдарбуд з дарожнага фонду. Каб заасфальтаваць 1,2 кіламетра дарогі спатрэбіцца 2,5 тысячы тон асфальту.

Фота Віталя ГІЛЯ

## Хворых на СНІД не выяўлена

**За апошнія паўгода прыкладна 7000 чалавек рознага ўзросту са Слоніма, Дзятлава і Зэльвы прайшлі праверку на СНІД.**

Пераважна гэта былі пацыенты венералагічнага, наркалагічнага дыспансераў, донары. Калі раней на віч-інфекцыю абавязкова даследавалі цяжарных жанчын і ўсіх стацыянарных хворых, то зараз гэта не з'яўляецца абавязковай працэдурай.

Па дадзеных рэспубліканскага цэнтра прафілактыкі СНІД, хворых у Слоніме і Слонімскім раёне не выяўлена.

**Вольга ШЫНКЕВІЧ**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі:
231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі .........2-14-39
..........(017) 210-87-17
аддзел рэкламы .........2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць. Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 23 жніўня 2000г.
Час падпісання 7:00.
Надрукавана ў Слонімскай узбуйненай друкарні, г. Слонім, вул. Хлюпіна, 16.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 9050 экз.
Заказ № 2715

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://gs.promedia.minsk.by

 



Газета Слонімская
24 — 30 жніўня, 2000г. № 35 (168)

## Пажар у Масілавічах

**У пятніцу, 18 жніўня, у вёсцы Масілавічы Слонімскага раёна згарэла хата жыхаркі Крот (на здымку).**



Фота Віталя Гіля

Жанчыне часова далі прыют суседзі. Па словах інспектара слонімскага дзяржнагляду, прычынай пажару стала газавая пліта. Але мясцовыя жыхары былі вельмі здзіўлены, калі на наступны дзень да Кратоў прыехалі работнікі гаргазу і паспешна забралі газавы балон і рэдуктар. Навошта, калі суткі таму яны прывезлі гэты балон з газам? Трэба яшчэ ўлічыць тое, што балон з рэдуктарам выкуплены і з'яўляецца ўласнасцю жанчыны.

Вольга ШЫНКЕВІЧ

## Адзінота страшней за ўсё

**У 57-гадовага дзятлаўчаніна раптоўна памерла жонка, і ён, як кажуць, застаўся адзін у чатырох сценах.**

Дзяцей у гэтага чалавека не было, і ён, відаць, не вытрымаўшы адзіноты, пакончыў з сабой.

## Збіў і кінуў

**Пенсіянера з вёскі Сачыўляны Дзятлаўскага раёна бяда напаткала на дарозе.**

Калі ён ехаў на веласіпедзе, на яго наехаў матацыкліст, які з месца здарэння знік. Дзядулю даставілі ў бальніцу. Міліцыя хутка выйшла на след злачынцы. Ім аказаўся малады хлопец, які раскатваў на матацыкле без правоў.

Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ

## У Мастах красці сталі болей

**Згодна міліцэйскай статыстыцы, з пачатку гэтага года ў Мастах было зарэгістравана 28 выпадкаў крадзяжоў асабістай маёмасці грамадзян.**

У большасці выпадкаў злодзеі, каб трапіць у кватэры, падбіраюць ключы, а пасля наведвання старанна замыкаюць за сабой дзверы.

Язэп ПАЛУБЯТКА

## Маланка стукнула ў ясень

**Днямі ў Мастах падчас навальніцы маланка стукнула ў дрэва, што стаяла на Савецкай вуліцы.**

Магутны ясень упаў і перагарадзіў усю дарогу. Пад яго голлем апынулася іншамарка. Аўтамабіль атрымаў нязначныя пашкоджанні, і таму вадзіцель адразу з'ехаў з месца здарэння. Дрэва абарвала лінію гарадскога радыёвяшчання. Камунальныя службы прыбралі дрэва на наступны дзень.

Антон МАКЕЙ

# ТРАГЕДЫЯ НА ЗАВОДЗЕ

**(Пачатак на 1 стр.)**

Прычынай смерці мужчыны стала атручванне парамі аміяку, выкід якога адбыўся 19 жніўня ў кампрэсарным цэху гэтага прадпрыемства. Факт аварыі і смерці чалавека пацвердзіў дырэктар прадпрыемства Міхаіл Дмухоўскі. Па ягоных словах, даў збой кампрэсар, які прапусціў газы аміяку. Кампрэсар быў перакрыты і апячатаны, а з памяшкання былі эвакуіраваны работнікі прадпрыемства. Аднак, па ацэнках спецыялістаў, у паветра адбыўся выкід 5 кілаграмаў пароў аміяку.

З аўторка на заводзе працуе камісія з Гродна, якая павінна зрабіць высновы аб прычынах здарэння, а таксама даць ацэнку яго наступстваў.

Сяргей ЁРШ

## "Сямейны ачаг" малюе Беларусь

**Дабрачынная таварыства "Сямейны ачаг", якое дзейнічае ў Мастах, днямі правяло прэзентацыю.**

Упершыню хворыя і дзеці з няпоўных сямей разам з бацькамі сустрэліся на беразе Нёмана ва ўрочышчы Міхайлоўка. Там жа быў праведзены конкурс дзіцячага малюнка "Я малюю Беларусь". Прызы атрымалі не толькі пераможцы, але і ўсе ўдзельнікі імпрэзы.

Язэп ПАЛУБЯТКА

## ВАЕННЫЯ НАЗІРАЛЬНІКІ Ў СЛОНІМЕ

**23 жніўня Слонімскую 11-ю гвардзейскую механізаваную брыгаду наведала дэлегацыя замежных вайскоўцаў.**



Фота з архіва "ГС"

Група афіцэраў была даволі вялікая – 37 чалавек з 21 краіны свету, якія ўваходзяць у арганізацыю АБСЕ. На працягу ўсяго дня замежныя вайсковыя спецыялісты агледзелі ўзброеныя часці, палігоны, пазнаёміліся з жыццём воінаў беларускай арміі. Гэты візіт праходзіў у рамках дамоўленасці, прынятай на саміце ў Стамбуле, што адбыўся ў 1999 годзе.

Анатоль МІРСКІ

### КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

* * *

Слонімская міліцыя затрымала злодзея, які на працягу апошняга тыдня ўкраў ажно тры веласіпеды. 25-гадовы злачынца краў веласіпеды, каб прадаць і напіцца.

* * *

Работнікі Слонімскага ГРАУС устанавілі асобу, якая ўкрала ў жыхаркі з вуліцы Чапаева 10 тысяч беларускіх рублёў. Мужчына прыкішэніў грошы ў той час, калі жанчыны не было ў хаце.

* * *

Супрацоўнікі крымінальнага вышуку Слоніма шукаюць злодзея, які ўкраў на мясцовым прадпрыемстве ГАП-11 запчасткі да рухавіка аўтамабіля КАМАЗ.

* * *

Днямі ў Слоніме выяўлена група юнакоў, якая здымала з прыпаркаваных каля жылых дамоў аўтамабіляў магнітолы, акумулятары.

Валодзя ЯНЧУК

## Першы раз у першы клас

**Сёлета ў Слоніме прыкладна 683 вучні пойдуць у школу ўпершыню.**

Па папярэдніх дадзеных аддзела адукацыі гарвыканкама, у горадзе сфарміравана 32 падрыхтоўчыя класы, з іх 22 будуць дзейнічаць на базе дзіцячых садкоў (432 чалавекі), на базе школ – 10 класаў (221 чалавек).

На жаль, такіх дадзеных па Слонімскаму раёну мы не маем, бо загадчыца раённага аддзела адукацыі Галіна Шмялёва катэгарычна адмовілася прадаставіць іх "Газеце Слонімскай".

Вольга ШЫНКЕВІЧ

## Гуманітарную дапамогу перадалі бальніцы

**Мастоўскае тэрытарыяльнае медыцынскае аб'яднанне атрымала гуманітарную дапамогу.**

Першапачаткова яна паступіла на адрас мясцовага касцёла, але вернікі палічылі, што медыкам яна будзе больш неабходнай. Гуманітарны груз складаецца з бялізны і іншых рэчаў бальнічнага ўжытку.

Антон МАКЕЙ

## Факс у падарунак

**Напрыканцы жніўня беларуская статыстыка святкуе сваё 80-годдзе.**

З гэтай нагоды Мастоўскі райвыканкам падараваў раённаму аддзелу статыстыкі, які ўзначальвае Яўгенія Плотнікава, факсавы апарат.

Язэп ПАЛУБЯТКА

## Хутка ў школу

**Сёлета на Дзятлаўшчыне пойдуць ў школу ў першы раз 512 дзяцей.**

У Дзяліянаўскай базавай школе першакласнікаў будзе ўсяго 2 чалавекі, а ў Малашастакоўскай – 4.

Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ

## Новая пасада

**Былы начальнік аддзялення па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю Мастоўскага РАУС Аляксандр Хадасок, які ў свой час быў арыштаваны супрацоўнікамі КДБ у рабочым кабінеце за атрыманне хабару і праз тры дні выпушчаны на волю, зноў працаўладкаваўся.**

Цяпер ён працуе на ААТ "Мастоўдрэў" на пасадзе майстра па рамонту каляі. Усё, што датычыць следства па справе атрымання ім хабару, застаецца таямніцаю. Некаторыя былыя яго калегі ўвогуле сумняваюцца, што справа будзе перададзена ў суд.

Антон МАКЕЙ

## "ДЗІЎНЫЯ ПАВОДЗІНЫ"

**Мастоўскі рок-гурт "Дзіўныя паводзіны" існуе тры гады.**



У склад яго ўваходзяць Максім Шарэйка, Ігар Шыла і Ігар Макараў **(на здымку)**. Бадай, гэта адзіны ў Мастах музычны гурт, які грае рок-музыку. Хлопцы самі пішуць тэксты і музыку да іх. У калектыве існуе мноства праблемаў: адсутнічае базавае памяшканне для рэпетыцый, няма высокаякаснай гукаўзмацняльнай апаратуры, музычных інструментаў. Звароты ў высокія інстанцыі не прынеслі жаданых вынікаў. Тым не менш, хлопцы вераць у свой поспех.

Язэп ПАЛУБЯТКА

### ГУМАРЭСКА

## Палавінкі разладу

У раённым універмагу народу было, нібы на кірмашы. І што цікава — адны кабеты.

— Што даюць? — пытаю.

— Тое, што даюць, табе не патрэбна, — як пугай секанула бойкая маладзіца з штучнымі фіялетавымі сінякамі на вачах.

— Ды што ты плявузгаеш, баба?! Як гэта не патрэбна? Сёння трэба браць усё, што на вочы трапляе. Праваронiш і неўзабаве будзеш плаціць у два разы даражэй.

— Не зважаючы на жаночыя кпіны, я праціснуўся да самага прылаўка, да прыгожай, але знерваванай прадаўшчыцы.

— На якую прыманку ты гэтулькі кабет сабрала, галубка? — пацікавіўся.

— Памер? — не адказваючы на маё пытанне, задала сваё.

— Чаго размер?

— Таго самага, за чым сюды прыпёрся. Шчэ й прыкідваецца, — пагрэбліва падціснула тонкія шнурочкі вуснаў і кінула перада мной на прылавак бюстгалтар.

— Будзеш браць? — спытала з несмешкай. — Яшчэ па старой цане прадаём.

— От, няхай чаргу не затрымлівае, — загаманілі з усіх бакоў злыя, як восы, кабеты.

— У яго яшчэ грудзі не выраслі.

— Вырастуць, — кажу, — не ваш клопат. У мяне, калі хочаце ведаць, жонка ёсць.

— Дык які размер? — каршуном насядала прадаўшчыца.

Я мітусліва азірнуўся па баках, шукаючы нешта падобнае для ўзору. Бачу, побач стаіць распараная чаргой і нецярпеннем кабета. Аж паліто расшпіліла. Я пачаў пільна прыглядацца да ўзгорачкаў грудзей. Нібы такія, як у маёй Алены...

А сам уважліва разглядваў бюстгалтар.

— Дайце меншы, усунуўшы ў адну палавінку два кулакі, патрабаваў у прадаўшчыцы.

— Толькі такія засталіся. Або бяры, дзядзька, або вымятайся. Я стаяў у нерашучасці.

— Бяры. Не падыдзе, дык прадасі. Зараз і гэтых не будзе, — зміласціўшыся, параіла прадаўшчыца.

Заплаціўшы, нарэшце, за дзве пары даліткатных торбачкаў, я накіраваўся да выхаду.

Алена пакупку ўвогуле адобрыла, але як зрабіла прымерку, настрой змяняўся.

— Ты што гэта прывалок, ёлупень? Для каго? — металічным голасам спытала яна. — Велізарныя, нібы шапкі, нанізаныя на шнуркі. Ды я ўсе свае гудзі ў адну палавінку ўпакую, і яшчэ месца застанецца. А што класці ў другую?

— Аленка, не засмучайся, — суцяшаю я. — Можа, яшчэ вырастуць твае грудзі. Цяпер усякія сродкі прадаюцца: і каб выраслі, і каб адраслі...

Яна маўчала, як Вавілонская вежа.

— Не бядуй, — знаходліва кажу я. — Трэба суседцы Клаве прапанаваць. У яе акурат такія грудзі. Ёй падыдзе.

— Што?! — тыгрыцай узвілася жонка. — Адкуль ты ведаеш, такія ці не такія? — наступала на мяне з бюстгалтарамі наперавес.

Да Клавы мерамь бюстгалтары я, вядома, не пайшоў. З-за прынцыпу. Алена не пайшла са злосці. Так і валяюцца ў шафе дзве добрыя рэчы. Можа, хто купіць, мужыкі, сваім кабетам у падарунак? Прыходзьце. Завулак Святочны, 7. Пытаць Міхася Цельпука.

Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ

 

Газета Слонімская
24 — 30 жніўня, 2000г. № 35 (168)

# ЛУКАШЕНКО ПРЕДУПРЕДИЛ СИЛОВИКОВ

**Свое недовольство работой правоохранительных органов по обеспечению безопасности личности в Беларуси высказал недавно на совещании с высшим руководством силовых структур президент республики Александр Лукашенко.**

Он констатировал о наличии тенденции к ухудшению криминальной обстановки в республике, одной из основных причин этого глава государства назвал существенные недоработки правоохранительных органов. По его словам, "череда заказных убийств и похищений людей, прокатившаяся по республике, со всей серьезностью поставила вопрос о способности власти оградить граждан страны от посягательства на их жизнь и здоровье, а длительная безнаказанность преступных группировок говорит о том, что крайне плохо работают прокуратура, КГБ, МВД и Совет безопасности". В связи с этим президент поставил вопрос о способности руководителей этих органов переломить ситуацию. В противном случае Лукашенко посоветовал им "реально оценить свои возможности и освободить должности для тех, кто способен обеспечить людям спокойную безопасную жизнь". "Есть органы власти, которые стоят лицом к лицу с народом, и по тому как они работают, люди судят о президенте, — отметил Александр Лукашенко. — Должен заявить со всей прямотой, что сегодня эта работа ведется из рук вон плохо". Глава государства предупредил руководство правоохранительных органов о том, что те, кто намерен встать рядом с ним и дальше бороться за безопасность граждан и страны, должен работать на совесть. "Это не популизм накануне парламентских и президентских выборов, а осознанная необходимость", — заявил Лукашенко.

Критики из уст главы государства на совещании удостоились также руководители пограничного и таможенного комитетов, в которых, по информации президента, процветают коррупция и взяточничество. Суды Александр Лукашенко предупредил, чтобы судили по закону, а не как хочется.

Весьма резко президент высказался в отношении Госавтоинспекции, сотрудники которой, по его словам, ведут себя особенно возмутительно, штрафуя водителей направо и налево, изымая документы. В тоже время он предостерег руководство ГАИ от процветания практики телефонного права, когда по звонку нужных людей нарушителям дорожного движения возвращаются водительские удостоверения, и потребовал наказывать по закону за дорожные преступления всех, кто бы ни находился за рулем, "будь то прокурор, судья, директор завода иди премьер-министр".

**Максим ТИТОВ**

## В Киев на книжную ярмарку

**Свыше 200 книг белорусских издательств будет представлено на II международной книжной выставке-ярмарке "Книжный мир — 2000".**

Эта ярмарка, посвященная Дню независимости Украины, состоится в Киеве с 23 по 27 августа.

Как сообщил БелаПАН начальник отдела издательской деятельности и книжной торговли Государственного комитета по печати Юрий Иванов, в национальной экспозиции Беларуси также будут представлены рекламные материалы книжных издательств и полиграфических предприятий.

Планируется встреча белорусской делегации с журналистами и представителями белорусской диаспоры в Украине.

Отметим, что на I международной книжной выставке-ярмарке "Книжный мир — 1999" были представлены 238 издательств, полиграфических и книготорговых предприятий, издательских центров, в том числе из Великобритании, Израиля, Словакии, России, Беларуси и США.

**БелаПАН**

## 1 сентября — пройдёт народный РЕФЕРЕНДУМ

**Сбор подписей в поддержку требований белорусской оппозиции и ОБСЕ по созданию в Беларуси условий для проведения свободных и демократических выборов поможет решить сразу несколько важнейших задач.**

Такое мнение на встрече с журналистами высказал заместитель председателя Партии БНФ Виктор Ивашкевич.

Эта акция, напомним, должна начаться 1 сентября.

По его словам, в ходе кампании предстоит сформировать объединенную структуру, которая будет способна на президентских выборах быстро собрать 100 тысяч подписей, необходимых для выдвижения единого кандидата от демократических сил.

Кроме того, сбор подписей, по мнению Ивашкевича, поможет созданию информационной структуры, которая "сможет оперативно по всей Беларуси распространять информационный продукт объединенной оппозиции".

"Благодаря этой структуре мы думаем в будущем году переломить ситуацию с распространением информации в Беларуси и выиграть информационную войну, которую ведет против белорусского народа сегодняшний режим", — сказал Ивашкевич.

**Юрий ПОТЕМКИН**

## Партийные войдут в состав ЦИК

**Включение в состав Центральной комиссии Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов представителей политических партий будет осуществлено президентским декретом.**

Об этом заявила председатель ЦИК Лидия Ермошина. По ее мнению этот документ может появиться в начале сентября, когда окончательно определится число партий, принимающих участие в парламентских выборах.

**Юрий ПОТЕМКИН**

## Паломничество католиков

**Днями польские паломники прибыли в Гродно, где побывали на богослужении в Бернардинском костеле.**

20 — 23 августа они посетили католические храмы в Гродненском, Щучинском и Вороновском районах. В общей сложности маршрут верующих по Гродненской области составляет свыше ста километров.

23 августа паломники пересекли белорусско-литовскую границу, а завершится "пилигримка" 26 августа.

**Ася КУНИЦКАЯ**

## Амнистия началась

**Из мест лишения свободы начали выходить граждане, которые подпадают под действие Закона Республики Беларусь "Об амнистии некоторых категорий лиц, совершивших преступления".**

Фота IREX/ProMedia

Как сообщил БелаПАН заместитель начальника Комитета по исполнению наказаний (КИН) при МВД республики Вячеслав Шабанов, освобожденных пока немного — прошли только первые заседания специальных комиссий, на которых рассматриваются материалы, представленные начальниками исправительно-трудовых учреждений, следственных изоляторов, спецкамендатур и т.д. Так, например, из исправительно-трудового учреждения, расположенного на улице Кальварийской в Минске, вышли около 100 человек. При этом, следует отметить, что в первую очередь на свободу выходят осужденные, которым осталось отбывать наказание меньше одного года и те, которые компенсировали нанесенный материальный урон и погасили имевшиеся в отношении их финансовые иски.

Всего же от дальнейшего отбывания наказания могут быть освобождены около 10.700 приговоренных к лишению свободы и 2.400 условно осужденных граждан с обязательным привлечением к труду.

**Вячеслав БУДКЕВИЧ**

## В Беларуси создается новая партия — христианская

**Бывший руководитель барановичской организации Либерально-демократической партии, бывший заместитель председателя ЛДП Вячеслав Тацин намерен создать новую партию — Христианскую.**

Об этом было заявлено на учредительном съезде партии, который состоялся в минувшие выходные в Барановичах. Примечательно, что съезд начал работу под звуки гимна БССР. Еще одной неожиданностью стало признание Тацина, что он и его соратники — в прошлом комсомольские работники.

По словам организаторов съезда, инициаторами создания новой партии выступили 1200 человек, которые представляют большинство областей страны, однако на съезде присутствовали всего 50 делегатов. Были приняты устав, программа, флаг, эмблема и гимн партии. Основной своей задачей новая партия видит "возрождение истинного христианского духовного мировоззрения".

Делегаты съезда приняли текст письма к Александру Лукашенко, в котором просили его "обратить внимание на молодое истинное христианское движение".

**Валентина КОЗЛОВИЧ**

# ВОПРОС — ГДЕ ВЗЯТЬ ВАЛЮТУ?

**Правление Национального банка Беларуси утвердило Правила ввоза, вывоза и пересылки наличной валюты, платежных документов в иностранной валюте, памятных монет из драгоценных металлов физическими лицами через таможенную границу республики.**

Как сообщили БелаПАН в управлении информации НБ, правилами разрешен ввоз гражданами в нашу страну и вывоз за ее пределы наличных белорусских рублей в сумме, не превышающей установленных в Беларуси 100 минимальных заработных плат на одного человека. Без предъявления разрешительных документов можно будет вывозить одному физическому лицу наличную иностранную валюту в сумме, не превышающей в эквиваленте 1.500 долларов США (в настоящее время разрешается вывозить 500 долларов США). Эта сумма рассчитывается по официальному курсу белорусского рубля к соответствующей валюте на день таможенного оформления. Ввозить же в страну иностранную валюту разрешается без ограничения суммы, как и любое количество памятных монет из драгоценных металлов, но с соблюдением требований таможенного законодательства. В тоже время вывозить из Беларуси каждому человеку можно не более пяти штук монет из золота, платины, палладия и десяти — из серебра.

Согласно новым Правилам, запрещена пересылка, как в нашу страну, так и за ее пределы наличных белорусских рублей и памятных монет из драгметаллов. Пересылать же из Беларуси, как и в Беларусь, наличную иностранную валюту письмами с объявленной ценностью допускается в сумме, не превышающей в эквиваленте 200 долларов США. Она рассчитывается по официальному курсу белорусского рубля к соответствующей иностранной валюте, на день приема письма с объявленной ценностью в предприятии связи.

Ввоз гражданами из государств-участников Таможенного союза в Беларусь, как и вывоз туда из нашей страны наличной валюты, платежных документов в иностранной валюте, памятных монет из драгоценных металлов разрешен без ограничения суммы и без декларирования в письменной форме, за исключением случаев декларирования по собственному желанию физического лица.

Правила вступают в силу с 1 сентября 2000 года.

**Олег СОКОЛОВ**

Газета Слонімская
24 — 30 жніўня, 2000г. № 35 (168)

# НАШИ ДОХОДЫ И РАСХОДЫ

**Что дорожало быстрее всего в первой половине 2000 г.**

| | |
|---|---|
| Продовольствие в целом | – 150% |
| Хлеб | – 230% |
| Сыр | – 180% |
| Овощи и молочные продукты | – 160% |
| Колбасы, мука, кондитерские изделия | – 150% |
| Алкогольные напитки | – 195% |
| Одежда и белье | – 138% |
| Табачные изделия | – 165% |
| Стройматериалы | – 160% |
| Медикаменты | – 175% |
| Бензин | – 160% |
| Платные услуги населению | – 200% |
| Пассажирский транспорт | – 225% |
| Услуги связи | – 155% |
| Жилищно-коммунальные услуги | – 265% |
| Услуги здравоохранения | – 200% |
| *Рост реальных денежных доходов населения (5 месяцев)* | *– 116%* |



Фота Віталя ГІЛЯ

За период от июня 1999 к июлю 2000 г. рост цен еще более пугающий. Цены на бензин, к примеру, выросли более чем на полтысячи процентов. Цены на промышленные товары и услуги также возросли в 2 – 4 раза. Планирование деятельности предприятий в такой среде невозможно. Так что Нацбанку надо не смягчать монетарную политику, а ужесточать ее, трансформируя и систему банковского контроля, и используя все операции открытого рынка ради достижения "святой экономической" цели – годовой инфляции в пределах 3% годовых.

На 1 июня 2000 г. 3593 предприятия или 32% от общего количества по официальной, весьма либеральной методике, убыточны. Сумма убытков – почти 165 млрд. BYB, или по курсу Нацбанка около 220 млн. USD. Этих денег с лихвой бы хватило на проведение не одной посевной кампании или на выплату пенсий во всей стране в течение 3 месяцев. Чему удивляться, если рентабельность продукции за первые 5 месяцев 2000 г. упала до 10,8%, т.е. на 27%. Причем на транспорте, в строительстве, торговле и общественном питании данный показатель еще ниже. А в мясо-молочной отрасли составляет трагикомические 5%. Механизмов и инструментов ужесточения финансовой дисциплины правительство так и не разработало. Напомню, что на 1 декабря 1999 года убыточных предприятий было на 45% меньше, а на 1 декабря 1998 г. их было всего 14,1%. Сумма убытков 7 месяцев назад была 32 млрд. BYB, т.е. в номинальном выражении выросла на 515%! Отраслевым лидером по числу убыточных предприятий является производство услуг в сфере бытового обслуживания – 40,7%, строительство – 32,1%, торговля – 30,5% и связь – 29,5%. Чуть лучше показатели в промышленности в целом, но отдельные отрасли имеют еще худшие показатели. В региональном срезе под 40% убыточных предприятий имеют Витебская и Могилевская области. В западных областях ситуация немного лучше.

Дебиторская задолженность на 1 июня 2000 г. составила 1,86 трлн. BYB (из низ 41,4% просроченная). Больше всего должны для промышленности – 843,1 млрд. BYB, жилищно-коммунальному хозяйству – 261,7 млрд. BYB и транспорта – 294,2 млрд. BYB. Сельское хозяйство на этом фоне выглядит вполне прилично с не дополученными 51,6 млрд. BYB. Кредиторская задолженность составила 2,68 трлн. BYB (38,4% из этой суммы просроченная) и больше дебиторской почти на 44%. И здесь особняком стоит промышленность, предприятия которой не заплатили 1,33 трлн. BYB (почти 50% от всех долгов). Сельское хозяйство должно 215,9 млрд. BYB. Под 300 млрд. должны транспорт, торговля и жилищно-коммунальное хозяйство. В начале года грозили не давать кредитов и предоставлять иных льгот тем, кто не рассчитывается с долгами. Такие угрозы стали таким же обычным делом, как телевизионные селекторные совещания. Предприятия Беларуси должны почти на 45% больше, чем им. Сельское хозяйство должно в 4,2 раза больше, чем должны ему. И все равно правительство считает, что без колхозов и совхозов Беларуси не жить.

Денежные средства на счетах предприятий на 1 июня составляли 19,5% к просроченной кредиторской задолженности. Ситуация гораздо хуже по промышленности – только 13,7% (ухудшение с начала года на 30%), в сельском хозяйстве – 10,5%, жилищно-коммунальном хозяйстве – 4,9%. По строительству ситуация по сравнению с началом года ухудшилась на 60%, в торговле – на 40%. Как и следовало ожидать, предприятия Беларуси больше всего должны России – 62%. Долг странам вне СНГ составляет 35%. Главными должниками белорусских предприятий также является Россия – 45%, страны вне СНГ – 48% от общей суммы долга. Денег предприятия не имеют, долги растут, как снежный ком. Рост долгов покупателей зарубежных стран говорит либо о вывозе капитала, либо о неэффективности законодательной защиты белорусских предприятий.

Когда физические объемы производства растут, а финансовое состояние предприятий ухудшается, значит явно надо менять экономическую среду. Абсурдно производить товары и не продавать их, наращивая объемы, если ты при этом становишься беднее. Что толку от того, что по сравнению с аналогичным периодом прошлого года химических волокон, капролактама, станков, троллейбусов, мотоциклов, автобусов и грузовиков выпустили больше? Взлеты и падения зависят от заключения или окончания срока действия контрактов, утраты старых рынков или получения финансовых и сырьевых вливаний. Прогнозировать динамику крайне сложно, поскольку белорусский реальный сектор лишен возможности оперативно реагировать на постоянные и участившиеся изменения конъюнктуры региональных рынков.

**БелаПАН**

## Лучшая и худшая товарная десятка I ПОЛОВИНЫ 2000г.

**(динамика объемов производства по сравнению с первой половиной 1999 г. в %)**

| Рост (лучшие) Товар | % изменения | Падение (худшие) Товар | % изменения |
|---|---|---|---|
| 1.Консервы мясные | +97 | 1.Соковыжималки | -51 |
| 2.Автобусы | +68 | 2.Полированное стекло | -50 |
| 3.Мотоциклы | +67 | 3.Полукопченые колбасы | -45 |
| 4.Хлопчатобумажные ткани | +59 | 4.Крупы | -45 |
| 5.Вареные колбасы | +41 | 5.Линолеум | -35 |
| 6.Шампанское | +35 | 6.Кормоуборочные комбайны | -33 |
| 7.Электромясорубки | +26 | 7.Радиоприемники | -33 |
| 8.Телевизоры | +25 | 8.Льняные ткани | -27 |
| 9.Древесноволокнистые плиты | +25 | 9.Трактора | -23 |
| 10.Капролактам | +20 | 10.Кирпич | -20 |

НАВІНЫ

## Цены растут

**Министерство статистики и анализа Беларуси сообщило, что за июль 2000 года индекс потребительских цен в сравнении с июнем составил 104,7 процента.**

В сравнении с декабрем 1999 года индекс потребительских цен в Беларуси составил 161,1 процента.

**Юрий АЛЕКСЕЕВ**

## Молока и мяса становится все меньше

**На Гродненщине продолжают снижаться объемы производства мясо-молочной продукции.**

За семь месяцев надой на корову составил 1.520 килограммов, что на 190 килограммов меньше, чем за аналогичный период прошлого года. Валовой привес крупного рогатого скота снизился на 17 процентов, свиней – на 13 процентов.

**Ася КУНИЦКАЯ**

ВЕСКА

# ДАЖАЛІ



Фота Віталя Гіля

**Сяляне Слонімскага раёна на гэтым тыдні павінны цалкам закончыць абмалот збожжавых на калгасных палетках.**

Па стану на 21 жніўня каласавыя зжаты на плошчы 93 працэнтаў да пасеянага і намалочана 61 163 тоны збожжа. Такім чынам ураджайнасць складае 31 цэнтнер з гектара. Калі ўлічваць сёлетнія замаразкі і засухі, то гэта неблагі ўраджай і, магчыма, мясцовае начальства атрымае зверху не толькі падзяку, але і грашовыя прэміі.

Самыя высокія намалоты ў калгасе "Прагрэс". Там з аднаго гектара ўзялі па 40,4 цэнтнера збожжа. Звыш 30 цэнтнераў з адзінкі плошчы намалацілі калгасы "Кастрычнік", "Міжэвічы", "Уперад", 1 Мая, імя Дзяржынскага і імя Суворава.

Вядома, за гэтымі дасягненнямі стаяць канкрэтныя людзі, якія прыклалі вялікія высілкі, каб сабраць ураджай хлеба. Напрыклад, камбайнеры з калгаса "Прагрэс" Іван Раманюк і Аляксандр Пецька намалацілі 861 тону зерня, а Мікалай Пякарскі і Канстанцін Данілюк з калгаса імя Суворава выдалі 748 тон збожжа, 733 тоны зерня намалацілі камбайнеры з калгаса 1 Мая Міхаіл Супрун і Міхаіл Утлік.

**Анатоль МІРСКІ**

